У НУМАРЫ




# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (823) ГОД XVI БЕЛАСТОК 5 СНЕЖНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.





## ГАВАРУ ВАМ, ТАВАРЫШ САКРАТАР...

Вёсачка невялікая, усяго некалькі хат. За вокнамі шумяць стройныя сосны, а пад імі — скромны помнік-магіла. Асталася яна з таго часу, калі гітлераўскія акупанты за сувязь з савецкімі партызанамі прыгаварылі вёску Полька і яе жыхароў на смерць.

Адплылі тыя гады... Горстка астаўшыхся пры жыцці — адны жанчыны і дзеці — вярнулася да сваіх спаленых сяліб, да спакойнай працы.

І ніхто з іх не спадзяваўся што калісьці — у студзені гэтага года — у іх вёску, на адрас маладога гаспадара Лявона Казберука прыйдзе з Варшавы пісьмо... за подпісам таварыша Эдварда Герка. А ў ім запрашэнне на сустрэчу ў ЦК.

— *Якія ўражанні асталіся ў вас з гэтай сустрэчы? — пытаю я таварыша Казберука.*

— Уражанні... За мною — шмат год грамадскай дзейнасці. Даволі часта выступаў на розных сходах. Дык і на гэты раз не вельмі хваляваўся. А калі таварыш Герэк сардэчна, так пасяброўску паціснуў руку на прывітанне, дык усялякае хваляванне зусім недзе адышло. Я



быў адным з 10-ці гаспадароў, якія прымалі ўдзел у гэтай сустрэчы. Апрача нас, былі яшчэ гарнякі, металургі і іншыя рабочыя. Сустрэча планавалася на гадзіну, а працягнулася больш дзвюх.

— *Вы выступалі?*

— На тое ж паехаў... Гаварыў я, вядома, пра нашы сельскагаспадарчыя справы, а найбольш пра тое, што сялянам баліць. Сказаў больш-менш так: я гаспадару на 10-ці гектарах слабой, бо ледзь IV-рох і V-класавай зямлі, на якой збіраю ўраджай ад 25 да 30 цэнтнераў збожжа

(*Працяг на стар. 4*)

## БГКТ ХРОНІКА

■ 12-га лістапада гданьскі аддзел БГКТ арганізаваў акадэмію з нагоды Кастрычніцкай рэвалюцыі. Даклад чытала сакратар аддзела А. Красько. Выступіў таксама з прамоваю сакратар ГП Я. Зенюк. Пасля адбылася мастацкая частка. Назаўтра сакратар ГП спаткаўся з актывам гданьскага аддзела.

■ 20-га лістапада ў адрамантаваным памяшканні ГП адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 54-ай гадавіне Вялікага Кастрычніка. З прывітальным словам выступіў сакратар ГП Я. Зенюк, даклад чытаў старшыня ГП М. Хмялеўскі. Сакратар гарадскога аддзела БГКТ З. Стаськевіч паведаміла прысутным аб планах працы клуба. Затым была адкрыта выстаўка беларускай народнай вышыўкі. У мастацкай частцы выступілі хор БГКТ з Бельска і эстрада ГП «Лявоніха». (мс)



Варшава. 6 снежня тут, у сталіцы нашай радзімы, пачне сваю працу VI з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі.




## КРОКІ ПА ЗЯМЛІ

Набіраюць разгон сямідзесятыя гады XX стагоддзя, кожная дэкада якога крокамі волата рухае чалавецтва наперад і адкрывае перад ім новыя даляглядьі.

Успомнім першы касмічны палёт чалавека. Юрый Гагарын скалынуў нашыя думкі з працёртых трас. Яго адзін віток навокал зямлі вывеў нас на касмічныя арбіты. Убачылі мы магчымасці чалавека, паверылі ў сваю сілу. І часта не ўяўляем сабе, што чалавек упершыню адарваўся ад Зямлі ўсяго толькі дзесяць год таму назад, і што шасцідзесятыя гады стварылі касмічную эру.

Але не адрываймася ад зямлі. Нягледзячы на гігантычнае развіццё чалавечай думкі, усё яшчэ шмат у нас нявырашаных зямных спраў, якіх нельга адлажыць на наступныя гады і дэкады, якіх ніхто за нас не вырашыць.

1971-му году адвялі мы асаблівую ролю. У ім здаваў экзамен генеральны напрамак нашай гаспадарчай палітыкі, выпрацаваны пасля снежаньскіх падзей. Напрамак гэты зыходзіў з трохступеньчатай асновы: правільны выбар мэты, уласцівыя метады, канцэнтрацыя грамадскай актыўнасці — могуць прывесці да высокай дынамікі гаспадарчага росту і значнага палепшання жыццёвых умоў грамадства.

Гэты экзамен вытрымаў станоўчую ацэнку. Накоплены вопыт у пераадольванні першага адрэзка новай дарогі павінен прыспешыць рух на наступных. Бо на такой менавіта аснове будзе абаперта далейшая наша гаспадарчая палітыка. Як паказала дыскусія над дырэктывамі ЦК ПАРП на VI з'езд, такая палітыка атрымала ўсеагульную падтрымку партыі і грамадства. Поўную ацэнку гэтай палітыкі дасць з'езд, ён таксама канчаткова абагульніць велізарны грамадскі вопыт з перадз'ездаўскага перыяду і спажыткуе яго ў вызначэнні далейшых задач узнімання Польшчы на новы, вышэйшы этап развіцця.

Несумненна, лёгкім ён не будзе. Кожнае новае нараджаецца, як правіла, у цяжкасцях і вымушана потым весці барацьбу са старым і аджыўшым. Таму наша грамадская справа, наш першачарговы абавязак — быць на баку новага, стваральнай працай памагаць яму займаць пануючыя пазіцыі.

Эдвард Герэк, гаворачы на партыйнай канферэнцыі ў Катовіцах аб маральных і ідэйных выніках з'ездаўскага чыну, сцвердзіў, што праца з'яўляецца найбольшай творчай сілай развіцця краіны і адначасова галоўным крытэрыем вартасці кожнага чалавека і кожнага калектыву ў нашым сацыялістычным грамадстве.

Гэтыя словы I сакратара ЦК ПАРП памагаюць лепш зразумець нашу ролю ў авалодванні новага этапа. Гэта і ёсць дарога, якая ў будучыні можа запэўніць узрост жыццёвага ўзроўню працоўных у нашай краіне. VI з'езд будзе на гэтай дарозе вельмі важным крокам. Ад энергіі, знаходлівасці і працавітасці ўсіх нас, ад узросту эфектыўнасці нашай працы (дзе мы не былі б), ад адданасці справе сацыялістычнага будаўніцтва будзе залежыць шырыня гэтага кроку. Ён будзе адкрываць нам новыя даляглядьі ў сямідзесятых гадах XX стагоддзя.

Каб яны адкрыліся нам хутчэй, трэба перш за ўсё пераадолець хрыбты старых прывычак, навучыцца па-новаму думаць і дзейнічаць.

Крокі па зямлі не такія простыя.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 156

## РЭФЛЕКСІЯ НАД МАГІЛАМІ

Пад купалам хмурнага ранку
Стаяць абеліскі радамі
Так, як ставалі ў шранкі
Салдаты, што спяць тут гадамі.
Вецер кранае галіны,
Ціха шапочуць бярозы —
Сумна снуюцца ўспаміны.
Упадаюць...
росы...
як слёзы...
Л'юцца слёзы гадамі,
Ніколі не высахнуць вочы
Тых матак, што з болем у сэрцы
Не спалі доўгія ночы.
Не спалі..
чакалі...
чакалі...
Чакалі тае хвіліны,
Калі, адслужыўшы чэсна,
Вернецца сын адзіны.
І раптам...
вестка...
загінуў!
Далёка, далёка ад дому
Зямля прыняла сырая!
Толькі матчына сэрца
Да сёння яшчэ не ўспрымае —
Не вернецца, часам маці
Глядзіць з надзеяй наперад,
Здалося, што ў ціхай хаце
Раптам скрыпнулі дзверы...
Трывожна ўздрыгнулі плечы,
Зноў боль набрыяў у сэрцы...
І туга сціскае глотку
Жаль аб сыновай смерці.

*

Вецер кранае галіны,
Мацней зашумелі бярозы —
Сыны! Сцеражыце Радзіму,
Каб матак не ранілі слёзы.
І бачу, як плачуць бярозы
На грудзі дваццатага веку
І горача просяць скрозь слёзы —
Даруйце жыццё чалавеку!..

*З. Стаськевіч*



* * *

Ты падарыў мне
грудку зямлі,
якая мяне карміла,
паіла,
а я,
што ж,
яе забыла.
Забыла,
як і некаторыя забываюць
крыніцы,
якія нам шчодрай, вялікай рукой
памагалі,
няслі нас у жыццё.
Шкада,
што так часта
наша памяць
такая скупая.

*НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ*

## Маналог маці

Сягоння сны мне сніліся цяжкія:
Снягі, пажар, гром зімніх перуноў.
Ваўкі, што спяць на печышчы халодным,
І два ліловых цёплых анемона,
Што смела сярод лёду расцвілі,
Пушыста-залатыя, як пушок
На згібах рук дзявочых, рук каханай.
Сягоння сны мне сніліся цяжкія:
Двох матылёў вясёлкавых палёт
Над вірам, што пачаў смактаць паветра.
Сягоння сны мне сніліся цяжкія:
Мястэчка з дзіўнай назваю Пампея,
Што спіць на мірным схіле пад глухія
Удары бубнаў недзе пад зямлёй.
«О легкаважныя!» — прамовіць нехта
З разумным сэрцам, ледзяным, як глетчар...
Але пралескі, што цяпла чакаюць,
Не маюць права звацца першацветам,
І матылі, што прагнуць мірных кветак,
Не маюць права на пажар жыцця,
А гарады, што схілаў унікаюць,



Не маюць права сеяць хлеб і есці.
Не легкаважнасць, а святая мудрасць
Жыць прымушае побач з небяспекай,
Цвісці на самым вастрыі маланкі,
Сады разводзіць каля брамы пекла,
І паміж хлябаў весці караваны,
Між акіянам і блакітным небам...
І вось тады прыходзіць зорны час...
Прыходзіць. І кавалак тленнай гліны
Ўспрыймае горда назву: «Чалавек!»
Для маці шчасця большага няма,
Чым бачыць шчаснымі дзяцей любімых,
Хоць на кароткі гэты, зорны час.
І я бязмерна шчасная сягоння,
Бо зорны час прыйшоў і ў хвалях страшных,
З агнямі Эльма па звінячых мачтах.
Нічога на зямлі не баючыся,
Паміж адною і другой бязодняй
Ідуць у край блакітны караблі.

Прыходзьце зрэдку, зорныя часіны,
Каб каласоў не знішчыў сухавей,
Хоць на хвіліну, хоць на міг адзіны,
Кароткі, як дрыжанне любых вей.

*УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ*




ВАНЯ КІРЫЗЮК



Нарадзіўся 10 кастрычніка 1949 года ў сяле Крывяцічы на Бельшчыне. Пачатковую школу закончыў у Моры Гайнаўскага павету. Затым вучыўся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску і ў Будаўнічым тэхнікуме ў Беластоку. Некалькі год працаваў тэхнікам на розных будовах у Бельскім і Гайнаўскім паветах. Цяпер вучыцца на юрыдычна - адміністрацыйным аддзяленні філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Піша на гаворцы свае роднае мясціны — Крывяціч.



## НАШ КРАЙ

Нэма краю вэсэльшого,
Так як нашы сёла:
Дэ нэ пуойдэш, дэ нэ глянэш —
Всюды піеснь вэсёла.
Нэма краю кросівшого,
Як та Гайнувшчына,
Тутай пушча Біеловіжська —
Краса, бы дівчына.
Плывут рыэкі долінамі
Тіхо, помаленьку,
А бэрозы за клунямы
Шумят потіхэньку.
Сіяе біелью чэрэмчына,
Пшчолы міед прыносят.
Людэ!
Пошто Вам чужое?!
Руодным
краём
радуймося.

## КОБ БУЛО ЯСЬНЕЙШЭ НЭБО

Моя молодосць нэміла,
Нэ хто мэнэ — нэ стэруог,
В жыце йшов сэрэд помылок,
По дорогах повных нэвыгуод.

Од па[illegible]оёв, лугуов зэлэных
Прыняв шчасце і біду.
Там оставыв аж до скону,
Руодну, батькуовську зэмлю.

Коб було ясьнейшэ нэбо,
І душа нэ ныла з болю,
Дужо всёго зрэчтысь трэба,
Будовавшы лiепшу долю.



1

Кахаць аднолькава усіх сыноў,
разумных тых
і бесталковых,
вяртацца зноў да ціхіх сноў
заўсёды ты гатова.
Госціць твой твар і змрок, і цень,
у ім бляск сонца дагарае,
умееш вечна маладзець —
старая.
І ціша вечная ў чаде,
І вочы, як дзве тоні,
твой сын плыве дзесь у чаўне,
ікона.
Любім хваліцца дабратой, —
сказаць: харытатыўны я,
а ты і так з усіх найбольш
партыйная.

2

У сонным сне
твайго, бяроза, веццяя,
што спіць на подушцы імглістай,
пакінуў адгалоскі вецер,
асколкі песні гарманіста.



Радзіма,
родіна,
ойчызна!
Мы ўсе сябры пад дрэвам сонным,
тым самым молімся мы ізмам,
тым самым молімся іконам.
Браты, суседзі, людзі згоды,
аддайма дрэвам сэрцы й розум,
хадзем у сукні вечна моднай,
у сукні з соннае бярозы.

3

Я нарадзіў цябе,
таму так моцна я цябе кахаю.
Гляджу ў цябе праз сотні міль,
а дакранаюся рукой штодзённай,
О, блізкі і далёкі краю —
ты добрая ікона.
Твой твар з вачыма, нібы акіяны,
ў іх дэман — рух
і анёл цішы.
О, мой жаданы!
Мой каханы!
З каронаю зацвіўшай вішні.
Ты чуйна беражы свае капліцы
ад ворагаў
і ад сваіх таксама.
У грэшных цэрквах,
ля святых крыніцаў
крамы.

4

У збане сонца радасцей да краю,
хтось нахіліў яго і добра стала свету.
З яго усмешкі — ураджаі
і паэты.
Хтосьці з матыкаю папёр да збана,
а іншы кінуў камень злосна,
ды збан спакойна лье на зямлю гранне,
і лье бурштынавыя вёсны.
Праменнем ён урос
ў царкоўны купал,
і твары пранізаў ён лісцям,
быць можа з майго боку глупства —
чакаю я другога прыйсця.

*АЛЕСЬ БАРСКІ*

## МОЖА ГОД...

Птушак спеў.
Галасы,
галасы...
Як далёка, глыбока і блізка.
Мілы дотык вячэрняй расы,
Майго шчасця сухія агрызкі.

Ты прыйшоў,
адышоў,
як вясна
Моцна ў лета пусціла карэнні,
Я чакала цябе да відна,
Са мной мары мае, летуценні.

Скрып дзвярэй,
воблік твой
і шагі
Мне калолі ў вушы і вочы.
Каб ты ведаў, якім дарагім,
Ты астаўся ў сэрцы дзявочым.

Можа год,
можа два,
можа тры,
Толькі час тут нічога не зменіць,
Калі сэрца каханнем гарыць,
А твой позірк мне шчокі руменіць.

*Л. ТАНКЕВІЧ*



ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

# Уласнасць для доўгагадовых арандатараў

Уласнасць атрымліваюць не толькі тыя сяляне, якія купілі нерухомую маёмасць нефармальнай умовай, і тыя, хто гэткай маёмасцю самастойна карыстаўся прынамсі пяць гадоў, як аб гэтым мы пісалі ў папярэднім артыкуле, але таксама арандатары, якія з яе карыстаюцца прынамсі пяць гадоў.

Уласнасць можна атрымаць у такіх абставінах, калі ўласнік гаспадаркі ані асабіста, ані праз членаў сям'і не апрацоўваў яе прынамсі пяць гадоў, не працаваў на іншай сельскай гаспадарцы або ў сялянскім прадукцыйным кааператыве. З гэтага вынікае, што селянін, які сам апрацоўвае гаспадарку, або члены сям'і якога апрацоўваюць гаспадарку, калі аддаў у арэнду ўчастак зямлі, то ўласнасці гэтага ўчастка не можа страціць.

Не траціць уласнасці і той, хто аддаў у арэнду зямлю на больш чымсьці пяць гадоў, але 4 лістапада 1971 года (дата, ад якой абавязвае закон аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак) не прайшло яшчэ пяць гадоў з таго моманту, калі арандатар пачаў карыстацца зямлёй. Гэта адносіцца і да тых уласнікаў, якія асабіста гаспадарку не ўпраўлялі. Закон не прадбачыць, што арандатар зможа атрымаць гаспадарку або ўчастак зямлі, якія ён арандуе, на ўласнасць пасля пяцігадовага карыстання, калі гэта наступіць пасля 4 лістапада 1971 года.

У выпадках, калі арандатар мае права атрымаць уласнасць зямлі, якую ён арандуе, дзяржава можа пераняць гэту зямлю на сваю ўласнасць, або прызнаць уласнасць арандатару.

Асобнае распараджэнне Рады Міністраў урэгулюе выпадкі, у якіх арандатар не зможа атрымаць уласнасці, а дзяржава пераняць зямлю, а таксама ўмовы, на якіх арандатар атрымае ўласнасць. Змест гэтага распараджэння прадставім, калі яно будзе апублікавана.

На перашкодзе набыццю ўласнасці тымі, хто да гэтай пары самастойна з зямлі карыстаўся, або тымі, хто яе арандаваў, не стаяць праўныя нормы, якія дагэтуль абмяжоўваюць магчымасць абароту зямлёй. Гэта значыць, што мае тут значэнне тое, колькі зямлі мае арандатар і колькі ўласнік зямлі.

Як правіла, уласнік, яго папярэднік або наследнікі за зямлю, якая пераходзіць на ўласнасць арандатара, павінны атрымаць заплату паводле цэн, устаноўленых для продажу дзяржаўнай нерухомай сялянскай маёмасці. Аднак права атрымання гэткай заплаты прыслугоўвае толькі тым з уласнікаў або іх наследнікаў, якія адпавядаюць наступным умовам:

1) працуюць на індывідуальнай сельскай гаспадарцы,
2) з'яўляюцца членамі сельскага прадукцыйнага кааператыва і працуюць на яго гаспадарцы,
3) не дасягнулі 18 год жыцця або вучацца,
4) з'яўляюцца трывала няздольнымі да працы.

Усе тыя, хто не адпавядае гэтым умовам, не маюць права да атрымання заплаты за зямлю, якую атрымаў на ўласнасць арандатар або пераняла на ўласнасць дзяржава.

Селянін, які набывае згодна з новым законам зямлю, адказвае за ўсе даўгі, якія належацца дзяржаве і якія звязаны з гэтай зямлёй (напрыклад, залеглыя падаткі).

Здараюцца на вёсцы выпадкі, калі старыя бацькі аддаюць гаспадарку дзецям, сваякам ці асобам блізкім, агаворваючыся, што тыя будуць іх утрымоўваць да смерці. Гэткія ўмовы лічацца важнымі толькі тады, калі заключаны ў форме натарыяльнай. Калі ўмовы гэткія былі заключаны не ў форме натарыяльнай, яны не змяняюць уласніка зямлі, і той, хто зямлю аддаў за пажыццёвае ўтрыманне, можа патрабаваць яе звароту.

Закон аб урэгуляванні ўласнасці сялянскіх гаспадарак рэгулюе гэтыя выпадкі так, як быццам бы гэткія прыватныя ўмовы былі заключаны ў форме натарыяльнага акта. Той, хто зямлю апрацоўвае, становіцца ўласнікам зямлі, а той, хто яму зямлю даў, мае права патрабаваць ад яго ўтрымання згодна з умовай.

*В. Склубоўскі*

## АГЛЯД ПЕСНІ І ДРАМГУРТКОЎ

Да звыш 60 асоб звярнуліся мы з пытаннямі аб тым ці прымуць яны ўдзел у аглядзе (песні або драмгурткоў) у 1972 годзе.

Першыя адказы ўжо друкавалі. Сёння змяшчаем наступныя.

ЗІНА ЛЕБЯДЗІНСКАЯ, СТРАШАВА, БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ.

«У адказ на вашы пытанні хачу коратка паінфармаваць, што гурток БГКТ у Страшаве думае прыняць удзел у аглядзе драмгурткоў у 1972 годзе. Старшыня гуртка».

ПЁТР ГОСЦІК, БЯЛЯВІЧЫ, БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ.

«Паведамляем вам, рэдакцыя, што гурток БГКТ у Бялявічах прыме ўдзел у аглядзе драмгурткоў у 1972 годзе. Будзем ставіць п'есу «Вывараджыла». Старшыня гуртка».

ІРЭНА РАНЦЭВІЧ, СЯМІХОЧЫ, СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

«Паведамляем, што прымем удзел у аглядзе «Беларуская песня — 1972». Выступіць дуэт Ірэна Ранцэвіч — Ніна Пытэль. Выканаем наступныя песні: «Нёман», «Чорныя вочкі, пара ўжо спаць». Калі б нельга было спяваць у дуэце, просім паведаміць нам пра гэта».

АД РЭДАКЦЫІ: АДКАЗ ІРЭНЕ РАНЦЭВІЧ.

Але ж так, дуэты як найбольш прыгодны для конкурсу! Правілы агляду, які апублікавала ўжо «Ніва», дапускаюць да ўдзелу: салістаў, дуэты, трыё, квартэты, квінтэты (5 чалавек), секстэты (6 чалавек), актэты (8 чалавек).

Усім аўтарам вышэйшых адказаў дзякуем. Чакаем таксама падобных адказаў ад асоб, да якіх мы не звярталіся пісьмова (не мелі іх адрасоў). Просім даваць свае прапановы. (вл)



## ПІЛІП ПЕСТРАК у ГП БГКТ

У лістападзе г.г. у складзе дэлегацыі Савецкага камітэту абаронцаў міру наведаў Польшчу вядомы беларускі пісьменнік Піліп Пестрак. Пасля заканчэння запланаванага маршрута, пісьменнік прыехаў у Беласток, з якім у мінулым звязалі яго жыццёвыя дарогі, і ён, як толькі мае магчымасць, заглядае ў наш горад. Нам асабліва прыемна, што Піліп Пестрак заўсёды знаходзіць таксама час, каб наведаць ГП БГКТ. Так было і гэтым разам. 12 лістапада ў ГП БГКТ адбылася сяброўская сустрэча з пісьменнікам, які падзяліўся з намі ўражаннямі з пабыўкі ў Польшчы, расказаў нам аб сваіх творчых намерах і праявіў зацікаўленасць працай БГКТ. Між іншым, даведаліся мы, што Піліп Пестрак збіраецца пісаць кніжку аб Сяргею Прытыцкім. З гэтай мэтай ён наведаў цяпер Гаркавічы ў Сакольскім павеце — родную вёску беларускага рэвалюцыянера і прэзідэнта.

На здымку: Піліп Пестрак (другі справа) на сяброўскай сустрэчы ў ГП БГКТ. (рл)

*Фота Цаф — Сянько*

ня «Просів мэнэ Гарасым, Гарасым, шчоб я пошла спаты з нім, спаты з нім»), «жмудскія» (г.зн. літоўскія) тэксты, невялікі польска-літоўскі слоўнічак. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Наваградскі ваявода Юзаф Аляксандр Ябланоўскі быў цесна звязаны з Украінай, Беларуссю, Літвой. Вядомы бібліёграф, гісторык, геральдык, перакладчык і паэт, аўтар прац па астраноміі і гісторыі літаратуры, ён быў чалавекам веку Асветніцтва, членам многіх навуковых таварыстваў, цікавай асобай у гісторыі беларуска-польскіх літаратурных кантактаў. Нарадзіўся ён у 1711 годзе ў Ціхомлі на Валыні, з 1755 года быў наваградскім ваяводай, часта бываў у Вільні і на Жмудзі, памер жа ў 1777 годзе ў Лейпцыгу.

У XVIII стагоддзі знойдуцца і іншыя пісьменніцкія асобы, цесна звязаныя з літаратурным жыццём тагачаснай Беларусі. На беларускай зямлі нарадзіліся і доўга прабывалі класікі польскай літаратуры Францішак Князьнін, Францішак Багамолец, Адам Нарушэвіч, Юльян Урсын Нямцэвіч і інш. На Гродзеншчыне доўга жыў і засноўваў школы для беларускіх прыгонных сялян родапачынальнік польскага сентыменталізму Францішак Карпінскі. Гэтыя і іншыя факты сведчаць, што літаратурнае жыццё Беларусі, беларускія кантакты з польскай літаратурай былі даволі значнымі і плённымі.

*АДАМ МАЛЬДЗІС*

ЛІСТ СЯБРУ

## Што ў нас чуваць

*Усе мы цяпер запрацаваны. Хваля стваральнай працы пераліваецца праз нашу краіну: ад берагоў Балтыкі да вышынь Карпацкіх гор, ад Одры да Буга.*

*І гэта адказ на пытанне, што ў нас чуваць.*

*Чуваць у нас перш за ўсё пра шосты з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі, пра яе «Дырэктывы», якія Цэнтральны Камітэт паставіў на ўсенароднае абмеркаванне.*

*Успомні верш Маякоўскага, у якім гаворыць пра словы, што сцерліся ад частага ўжывання і пра словы заўсёды крылатыя, несмяротныя.*

*Пасля гістарычных перамен, пасля ўсяго таго, што рабілася ў нашай краіне на працягу апошніх адзінаццаці месяцаў, слова ПАРТЫЯ стала крылатым, несмяротным, менавіта такім, пра якое пісаў паэт, якое ён атоесамліваў з імем ЛЕНІНА.*

*На працягу кароткага часу зроблена многа вельмі важных учынкаў.*

*З днём 1-га студзеня 1972 года адменьваюцца абавязковыя дзяржаўныя пастаўкі збожжа, бульбы і мяса, абмяжоўваецца ўзровень падатковай прагрэсіі, упрашчаецца заблытаная і патрабуючая шмат грошай працэдура набыцця правоў уласнасці на зямлю.*

*Гэта толькі некаторыя, найбольш істотныя праблемы нашай вёскі. Дадаць тут варта яшчэ б слова і пра новыя, карысныя для хлебаробаў цэны на мяса і малако, і пра новыя, чалавечыя адносіны да сялян у дзяржаўных установах і на розных скупачных пунктах.*

*А навінкі на прамысловым фронце? Зайгралі будаўляныя машыны пад Лапамі, ідзе пабудова велізарнай цукровай фабрыкі; у Ляўкове на Гайнаўшчыне неўзабаве распачне прадукцыю другі ўжо керамічны завод. У Саколцы — прадпрыемства па прадукцыі будаўлянай сталяркі і вялікі філіял беластоцкай металаапрацоўчай фабрыкі «Спомаш», у Гайнаўцы — высокаякасная мэбля і стружкавыя пліты, разбудова «хімічнай» і «Гаймахлесу», у Гарадку — значнае пашырэнне вытворчасці мясцовай «трыкатажкі».*

*Людзі гэта бачаць і ацэньваюць, ды даходзяць да вываду, што дабро чалавека і развіццё краіны — адзін і той жа клопат нашай партыі.*

*Трэба было б табе пабываць хаця б на некаторых сходах, сустрэчах і канферэнцыях, паслухаць, як выступаюць працоўныя, з якой турботай адносяцца яны да спраў агульных, грамадскіх. Гэта ад іх з аднаго толькі Беластоцкага ваяводства ў час даз'ездаўскай размовы паступіла звыш пайтары тысячы каштоўных прапаноў. Людзі клапаціліся аб хутчэйшым развіцці жыллёвага будаўніцтва, аб талковай арганізацыі вытворчасці, аб бытавых справах на прадпрыемствах, аб спраўнейшым абслугоўванні сялян, аб лепшай сістэме кантрактацыі сельскагаспадарчых пладоў і аб многіх іншых справах, якія я тут не ў сілах пералічыць.*

*Усе гэтыя прапановы аднатаваны і не адна з іх не застанецца без уважлівага разгляду. На гэта людзі маюць партыйнае слова, якому вераць, а свой давер падмацоўваюць самаахвярнай працай, з надбаўкай выконваючы штодзённыя задачы, ды паспяхова ажыццяўляючы свой з'ездаўскі чын.*

*І зноў пад пяро напрашваецца Маякоўскі:*

*— Дзядзечка,*
*што вы робіце тут...?»*
*— пытаў дзіця ў паэме «Добра», а паэт адказвае:*
*— Што?*
*САЦЫЯЛІЗМ»...*

*Так, мы таксама робім САЦЫЯЛІЗМ і хочам рабіць яго найлепш, як патрапім.*

*Твой*
*Максім Нурэцкі*

## ВЯСКОВЫЯ ЦЭНТРЫ КУЛЬТУРЫ

Добра, калі ў вёсцы ёсць святліца, але яшчэ лепей, калі клуб ГС-у альбо «Рух». У клубе, асабліва ў тым, дзе ёсць хоць два пакоі, значна лепш арганізоўваць культурна-асветную працу. Але цяпер ужо выразна адчуваецца, што клубы пры сённяшняй іх арганізацыйнай структуры, кадравых і фінансавых магчымасцях не задавальняюць культурнага запатрабавання людзей. Жыхары вёсак дамагаюцца шырэйшага ўзбагачэння культурных паслуг, вышэйшага іх узроўню. Вось таму ў бліжэйшыя пяць гадоў прадбачваецца ў Беластоцкім ваяводстве арганізаванне 46 новых грамадскіх асродкаў культуры (ГОК). Будзе гэта ўзрост на 235% у адносінах да ліку 34 ГОК-аў у 1970 годзе.

Пляцоўкі гэтыя будуць мець чулую апеку з боку рад нарадовых, а таксама з боку павятовых дамоў культуры. Аддзел культуры ВРН незадоўга перагледзіць статут для ГОК-аў, які будзе даваць ім права каардынаваць працу мясцовага кіно, бібліятэк і клубаў на аснове гадавой праграмы культурна-асветнай дзейнасці грамады ці мястэчка. Да ГОК-аў будзе належаць таксама арганізацыйная і метадычная дапамога працаўнікам клубаў і святліц. За пяць год павялічыцца колькасць клубаў і святліц на 231, а бібліятэк — на 22.

Прадстаўленае колькаснае развіццё культурных пляцовак будзе адбывацца ў асноўным шляхам пераймання будынкаў ад іншых карыстальнікаў і іх прыстасавання, а таксама шляхам будовы грамадскім чынам. (мх)

ВЯЛІКІ КОНКУРС

# ГІСТОРЫЯ І СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ СССР

У АСВЕТНА-ВЫХАВАЎЧЫМ ФІЛЬМЕ

Конкурс гэтакі арганізаваны з нагоды 25-годдзя дзён савецкіх фільмаў у Польшчы.

Конкурс працягваецца ад 1.XI.1971 г. да 15.IV.1972 г.

Арганізатары: Галоўнае праўленне ТППР, Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва, Цэнтраля асветных фільмаў «Фільмос», Польская тэлевізія, Дом савецкай культуры ў Варшаве.

Мэта конкурсу: папулярызацыя навукова-тэхнічных дасягненняў СССР, багацця савецкай культуры і мастацтва, гаспадаркі, жыцця народаў СССР.

Конкурс прызначаны для школьнай моладзі VII і VIII класаў пачатковай школы, усіх сярэдніх школ, маладзёжных арганізацый, настаўнікаў і інструктараў, якія працуюць у школах, дамах культуры, клубах і г.д.

Конкурсных фільмаў ёсць 115, а інфармацыя пра іх надрукавана ў спецыяльнай кніжачцы, якая будзе распаўсюджана сярод зацікаўленых.

Узнагародамі будуць, між іншым, экскурсіі ў СССР, розныя вартасныя матэрыяльныя ўзнагароды.

Заявы аб удзеле ў конкурсе, а таксама ўсялякія пытанні, звязаныя з конкурсам, дасылаць:

«Цэнтраля фільмув освятовых «Фільмос»
Бялысток, ул. Ліпова 14
тэлефон: 21374». (вл)

З ПАДАРОЖЖА ПА СССР

# Сустрэча з помнікамі КІЕВА

Кіеў сустрэў нас дажджовай, халоднай пагодай. Асенняя пагода ні ў чым не перашкодзіла адчуваць прыгажосць гэтага горада з яго найпрыгажэйшай цэнтральнай вуліцай Крашчацік.

Найбольш славутымі помнікамі старажытнай культуры з'яўляюцца тут Сафійскі сабор і Кіева-Пячэрская лаўра. Пра сабор скажу толькі, што ён пабудаваны ў княстве Яраслава Мудрага ў 1037 годзе. Мае ён 13 купалаў (згодна з колькасцю апосталаў).

У рускай праваслаўнай царкве зараз маецца тры лаўры: Троіца-Сергіева (г. Загорск), Кіева-Пячэрская (г. Кіеў) і Пачаеўская (на Валыні). Слова «лаўра» грэчаскае — мнагалюдны манастыр. У рускай царкве лаўра — гэта назва буйных і важных па свайму палажэнню мужчынскіх манастыроў.

Кіеўскі манастыр быў заснаваны ў XI стагоддзі, але наддняпроўскія пячэры існавалі тут даўным-даўно. Пачынаючы ад XI ст., манастыр стаўся крупным землеўладальнікам, маючы каля 80 тыс. падданых. Кіева-Пячэрская лаўра з'яўляецца не толькі царкоўным, але і культурным цэнтрам. Гэта тут створана «Повесць врэменных лет». На працягу другой паловы XVII ст. друкарня лаўры надрукавала 117 выданняў. Адсюль выйшла шмат майстроў розных прафесій. Напрыклад, плінта (цэгла), якая вытрымлівае ціск 150 кг на кв. см (зараз мы маем цэглу, якая вытрымлівае 75 кг на кв. см), па сённяшні дзень трымае таямніцу, з чаго яна зроблена.


Уваход у Кіева-Пячэрскую лаўру.

У цэнтры лаўры пабудаваны Успенскі сабор. Легенда гаворыць, што ў XI ст. Дняпром плыло 12 братоў. Калі выйшлі на бераг і ляглі спаць, яны ўбачылі сабор, а калі прачнуліся, кругом была раса. На другую ноч ім зноў паказаўся сабор і, калі яны пачалі кругом узірацца, убачылі, што ў адным месцы няма расы. Тут на працягу 12 дзён пабудавалі сабор, а пасля гэтага ўвайшлі ў пячоры і былі жывымі пахаваны. Зараз Успенскі сабор стаіць, разбураны гітлераўскімі захопнікамі, якія, аграбіўшы яго з золата і дыяментаў, узарвалі 3 лістапада 1941 года.

На тэрыторыі лаўры існуе шмат музеяў. Асабліва цікавы — гістарычны. Тут можна ўбачыць прадметы, якімі карысталіся скіфы, пражываючыя тут перад нашай эрай плямёны. У зале феадалізму можна любавацца майстэрствам мітры, якая зроблена з аднаго кавалка золата і ўпрыгожана 803 каштоўнымі каменямі, ці залатымі вокладкамі Евангеліі вагой у 32 кг. У нумізматычных залах — 14 тыс. манет, пры чым найстарэйшыя манеты з VI ст. перад нашай эрай. Тут можна ўбачыць медальёны ўсіх польскіх каралёў і даведацца, што найцяжэйшым рублём была екацерынка — 1 кг 600 г...

Хацелася мне стаяць і любавацца старыною, яе веліччу і магутнасцю, але не дазволіў на гэта час.

*Аляксей Карпюк*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

НА КАЛЯДЫ

Неўзабаве Каляды. Кожная з гаспадынь, напэўна, мае сабе толькі вядомыя, патаемныя прысмакі, якімі захоча пацешыць сям'ю альбо блізкіх сваякоў. І кожная будзе старацца, каб добра падрыхтавацца да свята. А можа б хтонебудзь захацеў зрабіць што-небудзь з нашых рэцэптаў?!

ВУШКІ ДА БАРШЧУ

На цеста трэба ўзяць 2 шклянкі мукі, крыху вады. На фарш: 5—6 сушаных грыбкоў, 2 вялікія цыбуліны, соль, перац, лыжку тлушчу.

Муку высыпаць у міску ці на вялікую стальніцу, зрабіць у муцэ ямку, у якую ўліваць пакрысе ваду, загортваючы муку канцом нажа. Далей рукой трэба мясіць цеста, пакуль не стане яно пульхнае і не будзе паднімацца, калі націснуць яго пальцам. Падсыпаць пад цеста мукі і пакінуць яго на 15 мін пад нагрэтай міскай.

Падрыхтаваць фарш: намочаныя ў папярэдні дзень грыбкі зварыць у той самай вадзе (ваду пасля можна выкарыстаць для баршчу ці капусты), адцадзіць, дробна пасячы. Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць на тлушчы, палажыць у яе грыбы, дадаць соль, перац і хвіліну смажыць усё разам, пасля чаго астудзіць.

Цеста раскатаць, як найбольш тонка, парэзаць на квадрацікі 4х4 см, на кожны налажыць пакрысе фаршу, заляпіць на рог, спалучаючы пасля два ражкі. «Вушкі» класці ў падсолены кіпяток і варыць 5 мінут ад таго моманту, калі вада з імі закіпіць.

ВІГІЛІЙНЫЯ ПІРАЖКІ

Можа каго-небудзь і здзівілі б гэтыя піражкі, а ўсё ж яны вельмі добрыя як гарачыя, так і халодныя.

Цеста з 1 шклянкі смятаны, 1 яечка і пачкі маргарына змешваем з такой колькасцю мукі, якую гэтыя складнікі ў сябе «ўбяруць». Падрыхтаваўшы цеста, адставіць яго на дзве гадзіны.

Кіслую капусту выціснуць, вымяшаць з нарэзанай цыбуляй, перцам і алеем. Цеста раскатаць таўшчынёю ў палец, рабіць невялікія піражкі, начыняць іх капустай і вельмі шчыльна заклейваць. Палажыць на змазаную тлушчам бляшку і ўставіць у духоўку. Ці цеста гатова, прабаваць драўлянай палачкай.

Могуць быць разнавіднасці гэткіх піражкоў. Можна, напрыклад, палажыць у сярэдзіну фарш з варанай капусты, з мяса, з сушаных грыбкоў, звараных і падсмажаных з цыбулькай. Можна таксама зрабіць фарш з варанай рыбы, ачышчанай ад касцей і вымяшанай з пасечаным крутым яйцом.

Есці гатовыя піражкі можна з супам, без нічога, рана, вечарам і ў поўдзень.

Дарагія чытачы, калі ў сувязі з падрыхтоўкай да свят у вас узніклі нейкія праблемы, пішыце да нас, не саромейцеся. Думаю, што мы паспеем яшчэ вам адказаць.

*Гаспадыня*

БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Ніжэй друкуем спісак (працяг) беларускіх кніг, якія можна набыць у беластоцкай кнігарні на вуліцы Кілінскага 10.

Н а в у м е н к а Іван, «Вецер у соснах», Мінск 1967, стар. 336, цана 6 зл. 70 гр.

Іван Навуменка — сучасны тэарэтык і практык беларускай прозы. Раман «Вецер у соснах» з'яўляецца працягам яго папярэдняга рамана «Сасна пры дарозе». Але адначасова гэта самастойны твор, прысвечаны партызанскаму руху на Палессі ў час апошняй вайны.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай прозы, прысвечанай барацьбе партызан з фашысцкімі акупантамі.

Т к а ч о ў Павел, «Вішнёвая квецень», Мінск 1971, стар. 136, цана 2 зл.

Гэта зборнік апавяданняў пра У. І. Леніна. Простыя, лаканічныя апавяданні аўтара раскрываюць перад юнымі чытачамі некаторыя старонкі з жыцця У. І. Леніна, расказваюць аб любві працоўных усяго свету да свайго вялікага правадыра. Зборнік аздоблен каляровымі ілюстрацыямі.

Рэкамендуем школьнікам і школьным бібліятэкам.

Я к і м о в і ч Алесь, «Выбраныя творы», Мінск 1967. Том першы — апавяданні і казкі, стар. 468, цана 10 зл., том другі — аповесці, стар. 464 цана 9 зл. 70 гр.

Гэта збор выбраных твораў вядомага сучаснага беларускага пісьменніка, які сваю творчасць у асноўным прысвяціў дзецям і моладзі.

Гэтае выданне павінна ў абавязковым парадку знайсціся ў школьных бібліятэках. Рэкамендуем яго школьнай моладзі.

ГЮНТЭР ЛЕЙС




Але тую ж самую гісторыю можна было расказаць зусім інакш. Уявім, што выбух 8 лістапада быў поўнай нечаканасцю для Гітлера і яго памагатых. Я мог уявіць сабе, што Гімлеру было над чым падумаць у тую ноч і наступнай раніцай. Зроблен замах на фюрэра, на чалавека, якога ўсе немцы павінны былі любіць. Георг Эльзер, які быў арыштаван у тую ноч і падазраваўся ў гэтай акцыі, з'яўляўся немцам. Як мог Гімлер прызнацца народу, што немец так ненавідзеў Гітлера, што рабіў замах на яго жыццё?

Ці мог Гімлер выстаўляць Эльзера ў якасці змоўшчыка-адзіночкі? Гімлеру былі патрэбны «Злачынныя падбухторшчыкі з-за рубяжа». Яму патрэбна была міжнародная змова. Таму ён ухапіўся за Стывенса і Беста, якія мелі няшчасце трапіць яму пад руку ў патрэбны час. Ён паслаў Найока ўкрасці іх і зрабіў з іх казлоў адпушчэння.

Я спытаў у Найока, ці ведае ён штонебудзь пра допыты Эльзера. Ён ведаў вельмі мала. Але ён успомніў, што адным з першых дапытваў маленькага цесляра Франс Йозеф Губер, які быў тады адным з галоўных паліцэйскіх Мюнхена.

* ⁂ *

Губер прыняў мяне ў атэлі «Альпен» у Мюнхене.

— Так, — сказаў ён, — я дапытваў Эльзера незадоўга да таго, як па загаду Гімлера эсэсаўцы вывезлі гэтага чалавека, з тым, каб дапытаць яго тайна сваім асаблівым спосабам.

Губер успомніў, што Эльзера схапілі ў горадзе Канстанца, ля швейцарскай граніцы, якую ён спрабаваў перайсці нелегальна ноччу 8 лістапада. Пагранічны патруль знайшоў у яго нейкі незвычайны багаж: паштоўку з малюнкам піўной залы Бюргербау, гадзіннікавую спружыну, дэтанатарны каўпачок, некалькі кавалкаў медзі і значок Баявой асацыяцыі Рот Фронт, левай палітычнай арганізацыі, якая дзейнічала ў Германіі да захопу ўлады нацыстамі ў пачатку 30-х гадоў. Супаставіўшы ўсё гэта, афіцэры-пагранічнікі дапусцілі магчымасць сувязі паміж гэтымі прадметамі і выбухам у Бюргербрау. Яны дапыталі Эльзера, але ён ні ў чым не прызнаўся. Тады яго адправілі назад у Мюнхен у кабінет Франца Йозефа Губера.

Губер агледзеў ужо руіны ў піўной і гэтак жа, як і я праз шмат гадоў, падумаў пра калені таго, хто рабіў замах. Ён успамінае сцэну ў сваім кабінеце.

— Распраніцеся, — сказаў ён.

Эльзер сумеўся. Губер сказаў:

— Мне неабходна бачыць вашы калені.

Эльзер няспешна падняў штаніны, і Губер убачыў, што калені ў яго распухлі і гнаяцца.

— Ну, што вы цяпер скажаце? — спытаў Губер.

Эльзер працягваў усё адмаўляцца. Губер не настойваў. Ён загадаў вывесці Эльзера.

— Апоўначы я зноў загадаў даставіць да сябе Эльзера. Я нічога не гаварыў. Ён сеў за стол, перад ім была бутэлька шыпучага ліманаду. Раптам ён сказаў: «Так, гэта я!»

Я спытаў у Губера, дзе я магу знайсці пратаколы далейшых допытаў Эльзера. Ён адказаў, што ведае аб існаванні даклада і што ён у чырвонай вокладцы. Але больш Губер нічым не мог дапамагчы.

Для разгадкі галаваломкі не хапала яшчэ некалькі буйных дэталей. І сярод іх была вельмі значная праблема — праблема ўзрыўчаткі. Як мог Эльзер адзін, амаль без сродкаў, без якой-небудзь калектыўнай падтрымкі знайсці дастаткова ўзрыўчаткі, каб падарваць вялікі будынак?

Калі я аднойчы загаварыў пра гэта з фраў Леман, яна ўспомніла, што чула ад аднаго з гестапаўцаў, які яе дапытваў, успамінанне пра нейкую каменяломню. Гэта ўсё, што яна помніла, але для мяне гэтага зусім было дастаткова.

Каменяломня! Выбухі! Узрыўчатка!

У Кенігсброне, дзе Эльзер правёў сваё дзяцінства, была толькі адна каменяломня. Уладальнік яе — Георг Вольмер, тоўсты мужчына з маршчыністым тварам. Як толькі я з ім загаварыў, тут жа зразумеў па яго хітраватай усмешцы, што я на правільным шляху. Тут зноў-такі калісьці пабывалі гестапаўцы.

Эльзер, паведаміў Вольмер, з'явіўся на каменяломні вясной 1939 года і папрасіў работу. Вольмеру патрэбен быў рабочы і ён узяў яго.

— Мой майстар Кольб заўважыў, што Эльзер праяўляе падвышаную цікавасць да нашых падрыўных работ. Ён без канца дапытваўся ў Кольба, як яны робяцца. Ён заўсёды ахвотна дапамагаў пры выбухах, уважліва прыглядаўся, як закладваецца ўзрыўчатка і ўстанаўляецца запал.

Аднойчы, працуючы ў каменяломні, Эльзер пашкодзіў нагу. Пазней Вольмер зразумеў, што гэта было зроблена знарок, каб звольніцца па ўважлівай прычыне.

Вольмер не ўспамінаў пра гэтага чалавека да таго часу, пакуль да яго ў лістападзе не пастукаліся гестапаўцы. Ніхто не мог даказаць, якой колькасці ўзрыўчаткі і запалаў не хапіла на каменяломні. Нядбалы Вольмер быў арыштаван і пасаджан у турму.

Вольмер дапамог мне адшукаць людзей, у якіх Эльзер жыў на кватэры ў гэты перыяд. Ён жыў у бліжэйшым гарадку Шнайтгеме. Яго кватэрнай гаспа-

